# НАШАЯ ЭМІГРАЦЫЯ

## Блескі й цені — Зычэньні й пажаданьні

Сяньня ужо можна гаварыць, што працэс асяленьня беларускае эміграцыі у вольных краінах сьвету больш менш закончыуся. Калі перад гэтым аснауное ядро нашае эміграцыі канцэнтравалася у Заходняй Нямеччыне — у лягерах ДП — дык цяперака амаль усе тыя, што мелі магчымасьць выэміграваць у краіны сталага асяленьня й забыцца аб жабрацкім іраускім хлебе, ужо выэміґравалі. У Нямеччыне асталася толькі невялічкая частка нашых суродзічау, якім з тых або іншых прычынау дзьверы для эміграцыі аказаліся зачыненымі, калі ня лічыць яшчэ меншай часткі беларусау у Нямеччыне, што яшчэ знаходзіцца у працэсе эміграцыі ці перад ім.

У сувязі з гэтым часовы стан жыцьця эміграцыі у лягерах ДП Нямеччыны, а разам з гэтым і ейная грамадзкая ды палітычная праца, што таксама насіла на сабе выразныя азнакі часовасьці, увайшлі у больш менш сталае и нармальнае русло. Таму й вымаганьні у дачыненьні да нашае эміграцыйнае інтэлігенцыі — палітычных, грамадзкіх ды культурных дзеячоу павінны быць сяньня значна большыя, чымсьці перад гэтым.

З гледзішча на адносна невялікую колькасьць нашае эміграцыі, што змагла нацыянальна самавызначыцца й не расплылася у польскай або расейскай эміграцыйнай масе не ува усіх краінах, што прыймалі да сябе уцекачоу з Усходу, змагла разьвіцца беларуская арганізаваная праца, ня гледзячы на тое, што там знайшла сабе прыпынішча пэуная колькасьць беларусау. Найбольш беларусау знаходзіцца сяньня у ЗША, Канадзе, Аргентыне й Аустраліі, а з эурапэйскіх краінау — у Ангельшчыне, Францыі, Бэльгіі й Нямеччыне. У гэтых краінах паусталі больш менш моцныя асяродзьдзі нашых суродзічау, сярод якіх вядзецца з большай або меншай актыунасьцю беларуская нацыянальная праца.

З гледзішча на выдайнасьць гэтае працы й агульную актыунасьць беларускіх арганізацыяу спасярод заакіянскіх краінау адно з першых месцау заслужана належыцца Канадзе. Параунауча невялікая група новай беларускай эміграцыі, што апынулася у гэтай краіне, патрапіла выказаць нямала актыунасьці, арганізацыйных здольнасьцяу і патрыятычнага энтузыязму, ня гледзячы на тое, што усё гэта людзі маладыя, у арганізацыйнай працы яшчэ мала дасьветчаныя, сярод якіх бадай што ня знойдзем патэнтаваных дзеячоу зь вялікім стажам і зь ня меншымі прэтэнсыямі. Орган Згуртаваньня Беларусау Канады «Беларускі Эмігрант», што пачау сваё існаваньне у скромнай ратагарнай форме, а ад пару год паяуляецца друкам, зьяуляецца аднэй зь лепшых беларускіх газэтау на эміграцыі, дарма што ад часу да часу прасочваюцца у ей артыкулы й зацемкі, тактычна, ня зусім вытрыманыя, што йзноу-жа можна прыпісаць маладосьці й малой дасьветчанасьці ейных рэдактароу і супрацоунікау.

Адклікаючыся зь вялікім прызнаньнем аб дзейнасьці нашых суродзічау у Канадзе, нельга, нажаль, сказаць гэтага аб беларускай эміграцыі у ЗША. дзе, як ведама, зьяуляецца наагул найвялікшая колькасьць нашых суродзічау і дзе апынулася амаль уся нашая інтэлігенцыя зь Ныемеччыны — передавыя грамадзкія, палітычныя й культурныя працаунікі. Нацыянальная праца нашае эміграцыі у ЗША знаходзіцца у вадносінах адваротна прапарцыянальных да ейнае колькасьці й якасьці, а таксама й да спрыяльных умовау дзейнасьці, якія суліць вольная краіна Вашынгтона. Няужо хранічная хвароба пасыунасьці й бязьдзейнасьці, на якую хварэла вялікая часьць беларускае інтэлігенцыі у Нямеччыне, разам зь ей перанеслася й за акіян? Гэтак, прыкладам, орган Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня у ЗША «Беларус», які павінен быу-бы стацца найпаважнейшай і найчасьцейшай беларускай газэтай на эміграцыі, вядзе мізэрнае існаваньне й паяуляецца радзей, чымсьці «Беларускі Эмігрант». Бясспрэчным аднак плюсам ёсьць тут тое, што Крывіцкае (Беларускае) Навуковае Таварыства Пранціша Скарыны здабылося на выданьне першага беларускага навуковага часапісу на эміграцыі «Веда». Судзячы з двух нумароу, што ужо пабачылі сьвет, у часапісе гэтым у даступнай навет для неспэцыялістых форме друкуюцца найбольш актуальныя артыкулы, якія маюць для нас ня толькі навуковую, але у ня меншай меры й нацыянальную вартасьць.

У ЗША сканцэнтравалася таксама й беларуская зарубежніцкая група, якая залажыла тут свой Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы Камітэт зь непэрыядычным органам «Беларуская Трыбуна». Дзейнасьць аднак гэтае групы і ейныя вынікі, трэба сказаць, мінімальныя.

У Аргентыне даволі скромна разьвіваецца нацыянальная праца, што можна вытлумачыць даволі сьціплай колькасьцю новай, нацыянальна сьведамай і палітычна выробленай нашай эміграцыі у гэтай краіне. Пауда, у Аргентыне ёсьць не малая колькасьць старой беларускай эміграцыі. Нажаль, гэта людзі або нацыянальна нясьведамыя, або тыя, што, будучы адарванымі даужэйшы час ад Бацькаушчыны, падпалі пад сільныя уплывы камуністычнае агітацыі. Ня гледзячы на усё гэта, Згуртаваньне Беларусау у Аргентыне, дзякуючы няутомнай працы старшыні ягонага К. Мерляка, праяуляе актыуную дзейнасьць.

Калі ходзіць пра далёкія заакіянскія краіны, дык значна горай прадстауляецца справа зь беларусамі у Аустраліі. Ня гледзячы на тое, што у Аустраліі пасяліліся не малая колькасьць беларусау, арганізаваная нацыянальная дзейнасьць між імі зьяуляецца усё-ж такі недастатковай, калі ня лічыць скромнай дзейнасьці Беларускага Нацыянальнага Камітэту у Мэльбурне, Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранау у Брысбэйне пад кіраунiцтвам сп. Д. Яцкевіча ды Аб'еднаньня Беларусау у Аустраліі, якое выдае інфармацыйны часапіс «Новае Жыцьцё». У апрауданьне нашых суродзічау у Аустраліі можна сказаць тое, што мясцовыя умовы іхнага жыцьця й працы не зьяуляюцца спрыяльнымі для арганізацыйнае працы, гадоунае з гледзішча на вялікую распыленасьць беларускае эміграцыі у розных мясцовасьцях гэтае краіны.

Пераходзячы да беларускіх эміграцыйных асяродзьдзяу у Эуропе, наш агляд распачнём ад Бэльгіі, не дзеля таго, што беларуская група у гэтай краіне зьяуляецца аднэй з найменшых у параунаньні з краінамі іншымі, але дзеля ейнае інтэнсыунае, пасьпяховае й з нацыянальнага гледзішча важнае нацыянальнае дзейнасьці. Гэтыя дасягненьні здабылі беларусы у Бэльгіі галоуна дзякуючы таму, што, апрача невялікае колькасьці беларускіх работнікау, знаходзіцца тут значная група беларускіх студэнтау у Лювэне, якая, будучы забясьпечанай стыпэндыямі, мае магчымасьць ня толькі нармальна студыяваць, але й пасьвячацца нацыянальнай працы. Вялікая заслуга гэтае групы у тым, што яна сваімі выступленьнямі, дакладамі й на высокім мастацкім узроуні пастауленымі канцэртамі годна папулярызуе імя Беларусі сярод бэльгійскага грамадзянства. Наступным здабыткам Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяу на Чужыне, што месьціцца цяпер у Бэльгіі, ёсьць атрыманьне стыпэндыяу для беларускае моладзі з розных краінау Эуропы для сярэдняга й пачатковага навучаньня у Бэльгіі. Усе дадзеныя гавораць за тым, што якраз у Бэльгіі зможа паустаць найбольш салiднае ня з гледзішча колькаснага, але якаснага ядро беларускае нацыянальна-вызвольнае дзейнасьці на эміграцыі.

У Францыі колькасьць беларускае эміграцыі значна большая, чымсьці у Бэльгіі. Тут, апрача новай беларускай эміграцыі, ёсьць не малая колькасьць эміграцыі старой,пэуная частка каторай уключылася ужо у працэс беларускае нацыянальнае працы. Аднак тут можа больш, чымсьці у іншых краінах, кідаецца у вочы факт, што, побач з актыунай і ахвярнай дзейнасьцю некаторых асобау у Парыжы, бальшыня нашых суродзічау, асабліва на правінцыі, зьяуляецца наагул бязьдзейнай. Ня гледзячы усё-ж такі на гэта, Парыж зьяуляецца да апошняга часу найважнейшым грамадзкім і палітычным беларускім эміграцыйным цэнтрам: тут стала прабывае й працуе Прэзыдэнт БНР інж. М. Абрамчык, тут знаходзіцца цэнтральны урад Сусьветнага Аб'еднаньня Беларускае Эміграцыі (САБЭ), тут напасьледак яшчэ у 1945 г. пачала выходзіць першая пасьля вайны друкаваная беларуская газэта на эміграцыі «Беларускія Навіны». Нявымоуна пацяшаючым і ня маючым яшчэ прыкладу у іншых краінах асяленьня беларусау ёсьць тое, што тут добра зарганізавалася беларуская моладзь, якая ужо ад даужэйшага часу выдае, хоць на ратапары, але добры свой месячны орган «Моладзь». Тут таксама выходзіць ад даужэйшага ужо часу салідны беларускі каталіцкі рэлігійны месячнік «Божым Шляхам». Апошнім часам пачала тут выходзіць новая беларуская друкаваная газэта «За Волю», што зьяуляецца супольным органам беларускіх эмігрантау у Францыі, Ангельшчыне й Бэльгіі. Гэтая газэта ёсьць найсьвяжэйшым паважным дасягненьнем беларускае калёніі у Францыі.

Аснауная маса беларускае нацыянальна актыунае эміграцыі у пералічаных вышэй краінах рэкрутуецца галоуным чынам з г. зв. ДП, якім удалося выэміграваць зь Нямеччыны, апрача гэтага прылучылася да яе невялікая колькасьць старой беларускай эміграцыі. Зусім іншага паходжаньня зьяуляецца аснауная маса нашае эміграцыі у Ангельшчыне. Гэта у бальшыні сваей былыя ахвяры бальшавіцкага тэрору у Заходняй Беларусі у 1939—41 г. г., якія, як «ворагі народу», былі бальшавікамі высланыя у Казахстан і пауночныя прасторы Сібіру. У часы арганізаваньня польскага корпусу ген Андэрса у СССР, гэтыя людзі лучылі у гэты корпус, прайшлі у ім цераз найцяжэйшыя агнявыя пробы апошняй сусьветнай вайны, здабывалі Монтэ Касыно, а пазьней апынуліся на тэрыторыі Ангельшчыны, як звычайныя работнікі.

Беларусы у Ангельшчыне за увесь час былі нацыянальна актыунымі, стварылі цэлы рад дзейных беларускіх арганізацыяу на чале із Згуртаваньнем Беларусау у Вялікай Брытаніі, якое мае свае аддзелы у многіх важнейшых пунктах Ангельшчыны. Нештодзенным дасягненьнем ангельскае групы беларусау была купля у Лёндане за ахвяраваныя імі грошы вялікага собскага дому, у якім памяшчаюцца усе беларускія арганізацыі й адбываюцца розныя арганізацыйныя сходы й нацыянальныя сьвяткаваньні. У галіне выдавецкай беларусы у Вялікабрытаніі таксама стараліся у меру сваіх сілау і магчымасьцяу не аставацца з-заду ад іншых беларускіх асяродзьдзяу.

Далёка няпоуным быу-бы наш агляд, калі-б мы ня успомнілі аб беларусах у Нямеччыне. Дарма, што тут асталася толькі нязначная колькасьць беларусау, і дарма, што знаходзяцца яны у вельмі кепскім матарыяльным палажэньні, бо, за выключэньем нямногіх адзінак, зьяуляюцца яны безработнымі й жывуць у лягерах зь мізэрнах запамогау нямецкага ураду, але й яны адыгрываюць не апошнюю ролю у суцэльнай дзейнасьці нашае эміграцыі. Працуе тут і надалей Беларускі Нацыянальны Камітэт, які ёсьць вызнаны іраускімі й нямецкімі уладамі за афіцыяльнае прадстауніцтва беларускае эміграцыі у Нямеччыне, выходзіць беларуская газэта «Бацькаушчына», якая яшчэ перад масавай эміграцыяй беларусау зь Нямеччыны амаль поунасьцю была заглохла, апрача гэтага беларусы у Нямеччыне прыймаюць актыуны удзел у дзейнасьці як палітычных, гэтак і грамадзкіх міжнацыянальных арганізацыях.

Нельга таксама абыйсьці моучкі нацыянальнай дзейнасьці беларусау у Італіі, дзе знайшлі сабе прыпынак толькі адзінкі беларускае эміграцыі, пераважна каталікі, зьвязаныя з Ватыканам. Зь іхнай дзейнасьці трэба адзначыць выданьне беларускага каталіцкага рэлігійнага месячніка «Зьніч» і зарганізаваньне радыяперадачау у беларускай мове цераз Ватыканскую Радыястанцыю у Рыме.

* *
*

Падсумоваючы дзейнасьць нашае эміграцыі у цэлым, выразна напрашваюцца некаторыя вывады й пажаданьні на будучыню.

Як відаць з вышэй пададзенага агляду, дзейнасьць толькі некаторых нашых эміграцыйных асяродзьдзяу можна прызнаць за добрую або прынамсі здавальняючую, бо некаторыя іншыя, хоць і маюць усе дадзеныя дзеля шырокага разгарненьня як грамадзка-нацыянальнае,, гэтак і палітычнае працы, зьяуляюцца болей або меней пасыуныя. Галоунае, што кідаецца у вочы у дзейнасьці нашых арганізацыяу паасобных краінау, гэта адсутнасьць належнае каардынацыі між імі й супольнага, згары узгодненага пляну, пры наяунасьці якіх нашая дзейнасьць мела-б бясспрэчна большы эфэкт. Віной у гэтым ёсьць цеаразьмерны лякальны патрыятызм, дзякуючы якому нашыя людзі у паасобных краінах даюць пяршынство чыста лякальным, часамі зусім дробным справам і патрэбам перад справамі й патрэбамі агульнанацыянальнымі, куды важнейшымі за першыя. Ня меншую віну трэба таксама прыпісаць і Сусьветнаму Аб'еднаньню Беларускае Эміграцыі, якое існуе сяньня больш на паперы, чымсьці на ніве канкрэтнае працы, тады калі заданьнем ягоным якраз і ёсьць каардынаваньне й плянавньне дзейнасьці беларускае эміграцыі у сусьветным маштабе.

Апрача гэтага ня менш кідаецца у вочы факт, што у кажнай краіне асяленьня беларусау актыуна працуюць толькі найбольш ідэйныя й грамадзка дасьпелыя адзінкі, а іншыя — а іх-жа пераважная бальшыня — зьяуляюцца зусім бязьдзейнымі. Таму аснауным нашым заданьнем у галіне нашай нутранай дзейнасьці павінна быць прыцягненьне да актыунае працы як найбольшае колькасьці нашых эмігрантау. Гэта нязвычайна важна ня толькі для большага зактывізаваньня тае ці іншае эміграцыйнае групы, але у ня меншай меры дзеля узгадаваньня як найбольшае колькасьці кваліфікаваных грамадзкіх, палітычных і культурных працаунікоу.

У кажнай краіне новага асяленьня далёка ня усе беларусы, асабліва расьсеяныя на правінцыі, зьяуляюцца ахопленымі нашымі арганізацыямі. Такое палажэньне вельмі спрыяе шыбкай асыміляцыі нашых суродзічау, што, асабліва з гледзішча на невялікую колькасьць нашае эміграцыі, зьяуляецца фактам нязвычайна небясьпечным. «Не павінна быць аніводнага беларуса, які-б аставауся паза засягам дзейнасьці нашых нацыянальных арганізацыяу!» — мусіць стацца агульным лёзунгам, абавязваючым нас усіх. У гэтым кірунку асабліва вялікую ролю можа адыграць роднае друкаванае слова — беларуская прэса, а таму ня толькі беларускія газэты, што выходзяць у дадзенай краіне, але й уся беларуская эміграцыйная прэса павінна даходзіць да кажнага беларускага эмігранта. Не малое узгадавучае значэньне мае таксама сьцягіваньне грашовых складак на важныя грамадзкія й харытатыуныя патрэбы. Агульна ведама, што чалавек, які заахвяравау хоць-бы й невялікую грашовую складку, заусёды будзе цікавіцца, на якую мэту яна была прызначана, і гэтым самым будзе уцягвацца у сфэру грамадзкіх зацікауленьняу.

Ды шмат можна знайсьці іншых спосабау прыцягненьня усіх нашых эмігрантау да арганізаванае грамадзкае працы. Патрэбная толькі добрая воля й належнае зразуменьне важнасьці гэтае справы сярод нашага нацыянальнага актыву.

**Алесь Крыга**

### ЧУЖОГА НЯ ХОЧАМ І СВАЙГО НЕ АДДАДЗЕМ

(Заканчэньне)

лі-б у склад беларускага гаспадарства.

3. Абапёрціся на волі самога насельніцтва, засяляючага гэтую тэрыторыю, сярод якога быу-бы праведзены плебісцыт пад наглядам міжнародных дзейнікау, прыкладам Задзіночаных Нацыяу.

4. Аднавіць канцэпцыю Вялікага Княства Літоускага у форме фэдэрацыі Беларусі зь Летувай, вярнуушы ягоны гістарычны назоу — Літва. Пры такой канцэпцыі сталіцай Летувы было-б Коуна, Беларусі — Менск, а Вільня зьяулялася-б сталіцай супольнага фэдэральнага ураду. Нам не сакрэт, што летувісы зьяуляюцца сяньня праціунікамі такой фэдэрацыі, уважаючы, што вялікая лічбовая перавага у ей беларусау пагражала-б асыміляцыяй летувісау. Але гэты страх, на нашую думку, ёсьць беспадстауны. Калі беларусы не засымілявалі летувісау на працягу пяці з палавінаю стагодзьдзяу у Вялікім Княстве Літоускім, калі пры вялікай гаспадарстваускай, палітычнай і культурнай актыунасьці беларускага народу летувіскі народ быу зусім пасыуным, то тым больш не засымілююць іх у будучыні, калі абодвы народы будуць у роунай меры актыунымі.

Толькі такое, а ня іншае можа быць разьвязаньне беларуска-летувіскага пытаньня. За ім прамауляе й простая лёгіка, і асновы міжнароднага права, і дэмакратычнае пашанаваньне волі кажнага народу на ягонае вольнае й незалежнае існаваньне, а над усё — нацыянальныя інтарэсы самых летувісау і беларусау.

С. Крушыніч

# Яго Праасьвяшчэнства Япіскап БАПЦ Васіль пакінуу Эуропу

**Яго Праасьвяшчэнства Япіскап Беларускай Аутакефальнай Праваслаунай Царквы Васіль, пасьля канчальнага афармленьня сваіх эгзаменау на Украінскай Багаслоускай Акадэміі й атрыманьня ступені магістра Багасловіі, гэтымі днямі пакінуу Нямеччыну й выехау у ЗША, дзе будзе й надалей прадаужаць сярод беларускае калёніі у Амерыцы царкоуна-рэлігійную й нацыянальна-грамадзкую дзейнасьць. Рэдакцыя „Бацькаушчыны", у выдаваньні й рэдагаваньні якой Япіскап Васіль прыймау заусёды актыуны удзел, выказвае Яму найшчырэйшыя пажаданьні далейшае плоднае працы на ніве рэлігійнага адраджэньня й нацыянальнага вызваленьня беларускага народу, як і асабістае памыснасьці у краіне новага асяленьня.**

# З А Я В А

## Украінскіх Нацыяналістых

На адбытай у красавіку сёлета Трэйцяй Канфэрэнцыі Замежных Часьцінау Арганізацыі Украінскіх Нацыяналістых была прынятая палітычная рэзалюцыя пункт дванаццаты каторай датычыць беларусау (глядзі «Украінскій Самостійнік» за 27. 5. 1951). Падаём яго поунасьцю:

«Польскія палітычныя дзейнікі на эміграцыі яшчэ й далей выяуляюць імпэрыялістычныя пасяганьні на украінскія, беларускія і летувіскія землі. Супраць гэтых іхных пасяганьняу станоука змагаемся.

Сьцьвярджаючы інтэгральную прыналежнасьць заходняукраінскіх земляу да Саборнай Украіны, засуджаем усякія намаганьні шукаць супольнае мовы з палякамі коштам украінскай тэрыторыі.

Наладжаньне украінска-польскіх узаемадачыненьняу у супольным вызвольным фронце ёсьць магчымае толькі на базе узаемнага вызнаньня дзяржаунае сувэрэннасьці абодвых народау і інтэгральнасьці іх этнаграфічных тэрыторыяу, а таксама пашанаваньня такіх-жа правоу іншых, саюзных народау, асабліва Беларусі і Летувы».

Вось-жа становішча, занятае наймагутнейшай сяньня украінскай арганізацыяй, што рэпрэзэнтуе сабой ваюючую Украіну, ёсьць для нас нязвычайна важным. Яно сьветчыць, што мы у сваім вызвольным змаганьні маем вялікага й паважнага саюзьніка, які горача нас падтрымлівае й выступае у вабароне нашых прыродных правоу, што навет наладжаньне узаемных дачыненьняу з палякамі узалежнівае ад пашанаваньня апошнімі правоу беларускага народу на дзяржауную незалежнасьць і інтэгральнасьць ягоных этнаграфічных тэрыторыяу.

Але побач з гэтым нельга із сумам не адмеціць і іншага асьветчаньня рэзалюцыі, дзе гаворыцца, што палякі выяуляюць свае імпэрыялістычныя пасяганьні і на летувіскія землі, пашанаваньня інтэгральнасьці якіх у роунай меры дамагаецца рэзалюцыя.

Мы, рэч зразумелая, ня толькі ня супраць дзяржаунае незележнасьці летувіскага народу і інтэгральнай цэласьці ягонай этнографічнай тэрыторыі, але вызнаём летувіскія правы на гэта, як і такія-ж правы іншых паняволеных расейскім бальшавізмам народау, за найважнейшую перадумову зьдзейсьненьня нашых собскіх нацыянальных імкненьняу. Але калі гаварыць аб быццам польскіх пасяганьнях на летувіскія землі, то можна мець на думцы толькі беларускія этнаграфічныя тэрыторыі уключна зь Вільняй, на якія, у роунай меры як палякі, у сваім імпэрыялістычным маньяцтве пасягаюць і летувісы. Бо дагэтуль мы ня чулі, каб палякі прэтэндавалі на летувіскія этнаграфічныя землі, бо тых некалькі летувіскіх прыгранічных валасьцяу, што уваходзілі у склад даваенная Польшчы, нельга-ж тут браць пад увагу, калі стаіць пытаньне польскіх прэтэнсыяу на усю Заходнюю Беларусь, што абыймала чатыры амаль цэлыя ваяводзтвы.

Арганізацыя Украінскіх Нацыяналістых правільна засуджае «усякія намаганьні шукаць супольнае мовы з палякамі коштам украінскае тэрыторыі». Але ня меньшае права мае й беларускі народ засуджаць усякія намаганьні шукаць супольнае мовы зь летувісамі коштам этнаграфічных земляу Беларусі, бо у прынцыпе няволя ёсьць аднолькавай, незалежна ад таго, ці у якасьці панявольнікау будуць палякі ці летувісы.

Таму поунае задэкляраваньне украінцау па нашым баку што тычыцца нічым неабаснаваных летувіскіх прэтэнсыяу было-б адзіна правільным. Але у дадзеным выпадку мы навет гэтага не дамагаемся, выходзячы з таго факту, што сяньня для украінцау як беларусы, гэтак і летувісы зьяуляюцца аднолькавымі саюзьнікамі. Але затое мы станоука дамагаемся прынамсі — як звычайна робіцца у падобных выпадках — прыхільнай нэутральнасьці з боку украінцау.

Нам хочацца верыць, што украінскае грамадзянства грунтоуна зрэвідуе сваё дасюлешняе становішча і у будучыні падобных памылак не пауторыць. Гэтага вымагае ня толькі беларуска-украінская прыязьнь, але і у ня меншай меры вызнаваны абодвымі нашымі народамі прынцып інтэгральнасьці этнаграфічнае тэрыторыі кажнага зь іх.

# Торг украінскімі землямі

Як паведаміла савецкая прэса й радыё, а потым і замежныя тэлеграфічныя агенцтвы, паміж СССР і Польшчаю была падпісаная 22 траўвеня сёлета умова, на падставе якой часьць тэрыторыі Украінскай ССР, пайменна Дарагабыцкі нафтавы раен адступаецца Польшчы, узамен за што Польшча перадае СССР землярobскую часьць Люблiншчыны, якая, не ад рэчы трэба зазначыць, зьяуляецца таксама украінскай этнаграфічнай тэрыторыяй, адрэзанай ад яе пасьля апошняе вайны. Згодна з увмоваю, на закранутых тэрыторыях адбудзецца перасяленьне украінскага й польскага насельніцтва. Як гаворыцца у тэксьце умовы, тэрытарыяльная замена была выклікана гаспадарскімі патрэбамі й праведзеная на просьбу польскага ураду.

Гэтая замена, быццам падыктаваная эканамічнымі матывамі, бясспрэчна хавае у сабе глыбейшыя мэты. У першую чаргу, як згодна зазначае украінская прэса, ходзіць саветам пра тое, каб убіць далейшы клін нязгоды паміж украінскім і польскім народам, паміж якімі, пасьля правядзеньня дасюлешняе мяжы паміж Украінаю й Польшчаю, пачалі унармоувацца суседзкія узаемадачыненьні. Украінцы ніколі не зракуцца Дарагабыччыны, вельмі важнае з гледзішча гаспадарскага. Польшча-ж, навет і небальшавіцкая, будзе імкнуцца захаваць гэтую тэрыторыю за сабой, выкарыстоуваючы яшчэ адзін козыр, што навет і Сталін прызнау яе за ей.

Апрача гэтага Дарагабыччына — гэта адзін з найбольш нацыянальна актыуных раенау Украіны, які між іншым быу да апошняга часу аднэй з найсільнейшых базау дзейнасьці УПА. Таму, перасяляючы цяпер згодна умовы украінскае насельніцтва з адступленай Польшчы тэрыторыі, адкрываюцца шырокія магчымасьці расьсеіць яго не па тэрыторыі Украіны, але проста па бязьмежных прасторах Сібіру.

Гэты новы экспэрымэнт Сталіна, які есьць новым актам зьдзеку над украінскім народам, хавае у сабе й грозную небясьпеку для Польшчы. Уся гэтая справа вельмі-ж прыпамінае такую-ж самую перадачу саветамі беларускай Вільні з часткай Віленшчыны Летуве у 1939 г., каб гэтым прыгатаваць псыхалягічны грунт для «прыняцьця» усяе Летувы разам з тей-жа Вільняй у склад Савецкага Саюзу. Можна цяпер чакаць, што й польскі камуністычны урад, бязьмежна удзячны Сталіну за Дарагабыччыну, як перад тым быу удзячны за усходнюю Нямеччыну, хутка папросіць прыняць Польшчу у склад Савецкага Саюзу.

Напасьледак сам спосаб правядзеньне тэрытарыяльных зьменау яшчэ раз паказвае усю аблуду г. зв. Сталінскай нацыянальнай палітыкі й поуную фікцыю нейкай самастойнасьці г. зв. савецкіх рэспублік. Замена украінскай тэрыторыі адбылася навет без фармальнага удзелу ураду Украінскай ССР, бо акт тэрыторыяльнай замены падпісалі з савецкага боку Вышынскі, а з польскага — віцэ-прэм'ер камуністычнае Польшчы А. Завадзкі.

